© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020




Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

26 верасня 2003 года

№ 39 (440)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года




**Навіны рэгіёну** 

### Пажар у Гудагаі

АСТРАВЕЦ. Амаль 2,5 мільёна рублёў каштавала свавольства 68-гадовага пенсіянера для СВК "Гудагай". Вечарам той ці то спецыяльна, ці то выпадкова падпаліў тры скірды саломы непадалёку ад вёскі Дзягенева. У недалёкім мінулым "падпальшчык" быў не апошнім чалавекам у кіраўніцтве гэтай жа гаспадаркі.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Будзь здароў!

АШМЯНЫ. Абласны семінар старшыняў гаррайвыканкамаў, прысвечаны здароваму ладу жыцця, прайшоў на базе Ашмянскага раёна. Удзельнікі наведалі ўстановы культуры, медыцыны, адукацыі, якія актыўна яго прапагандуюць. Работа ашмянцаў ацэненая на "выдатна".

**Марына СЛІЖ.**

### Падлеткі-забойцы

ВАЛОЖЫН. Трагедыя здарылася ў вёсцы Саланая, што ў Бабровіцкім сельсавеце. Ноччу двое падлеткаў праніклі ў дом аднаго з жыхароў гэтай вёскі і ўчынілі расправу. Гаспадару пашчасціла больш, ён абмежаваўся цялеснымі пашкоджаннямі. Яго кватарант, мужчына 1966 года нараджэння, забіты. Пракуратурай узбуджана крымінальная справа.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### У Смаргоні – герб

СМАРГОНЬ. У горада нарэшце будзе свой герб: на серабрыстым фоне мядзведзь трымае герб Радзівілаў. Гэты сімвал у адрозненне ад папярэдніх варыянтаў прайшоў абавязковую геральдычную экспертызу. Смаргонцы чакаюць, калі прэзідэнт падпіша указ аб зацвярджэнні герба.

**Святлана ЦІШКО.**

### Адкрылася выстава

МЯДЗЕЛ. У музеі ў райцэнтры адкрылася выстава пейзажнага жывапісу мастака **Алега Драбышэўскага**. Ён родам з Астравеччыны, а зараз жыве ў Мінску і прафесійна займаецца жывапісам. На выставе прадстаўлены шмат пейзажаў з малой радзімы мастака, ёсць вывы і з Мядзельшчыны, сярод якіх і карціна "Будслаўская святыня".

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Капрызы надвор'я

ВІЛЕЙКА. У першую дэкаду верасня тэмпература паветра была на 1-6°С ніжэйшай за норму і на 7°С ніжэйшая за такі ж перыяд мінулага года. Затое другая дэкада выдалася цяплейшая, чым звычайна. Пры норме ў +11 сярэдняя тэмпература паветра склала +13, а летась была +10°С.

**Святлана ЦІШКО.**

# Намалюй мне сонца



Пераможца конкурсу малюнкаў на асфальце Даніла Нарэйка падчас стварэння плаката "Чарнобыль – гэта праблема кожнага". Фота Святланы ЦІШКО.

## У Маладзечне прайшоў чарговы конкурс малюнкаў на асфальце

**МАЛАДЗЕЧНА. Конкурс малюнкаў на асфальце мае такую даўнюю традыцыю, што арганізатары, работнікі цэнтра мастацкай творчасці навучэнцаў, ужо не памятаюць ні яго год нараджэння, ні імя стваральніка. Кажуць: "Неяк сама сабой з'явілася ідэя арганізаваць такі конкурс. Гадоў 7 ужо існуе. Штогод мяняем яго тэму і намінацыі. Дзецям, здаецца, падабаецца".**

На чарговым конкурсе, што прайшоў 16 верасня, і сапраўды было цікава. Усіх вітала гаспадыня, якая абвясціла намінацыі "Прырода і мы", "Плакат", "Мая любімая казка", папярэдзіла, што часу даецца ўсяго 30 хвілін, і дала знак пачынаць.

Усе мастакі мелі ў сваім распараджэнні прыкладна аднолькавыя асфальтаваныя палотны метр на метр і крэйды. Настаўнікі і педарганізатары школ расказалі, што аб конкурсе яны паведамілі дзецям на ўроку. Удзельнічаць жадалі ледзь не трыццаць чалавек. А дэлегацыя школы павінна складацца з трох-чатырох прадстаўнікоў. Як можна аднаго ўзяць на конкурс, а астатнім адмовіць? Чым яны горшыя? Таму рашэнне прымалі дзеці. Тым больш, што яны лепш ведаюць магчымасці адно аднаго.

У выніку ў горадзе каляровых фарбаў спаборнічалі 39 дзяцей з сярэдніх школ №2, 4, 5, 9, 14, Маладзечанскай беларускай гімназіі і гімназіі №3. Літаральна пяць чалавек малявалі казачных мядзведзяў, чабурашак і маманцянят. Астатнія стварылі плакаты і карціны на тэму "Прырода і мы". Таму журы, якое складалася з мастака цэнтра мастацкай творчасці **Ірыны Шарак**, кіраўніка школы сямейнага выхавання **Валянціны Герасіменкі**, загадчыцы аддзела выстаў і масавых мерапрыемстваў **Алы Аношкі**, было цяжка выбіраць лепшыя творы. Пераможцы вызначаліся па кожнай намінацыі ў дзвюх узроставых групах: 7-9 і 10-12 гадоў. Барацьба была напружаная. Крэйды не хапала, удзельнікі з адной каманды абменьваліся ёю. **Даніла Нарэйка** ледзь не ляжаў на малюнку, каб дацягнуцца ў самы дальні куток, і бедаваў, што фарбамі атрымалася б лепш. Але менавіта ён перамог у старэйшай групе ў намінацыі плакат. Таксама пераможцамі сталі **Аляксей Сасноўскі, Руслана Камкова, Ганна Буднікава, Віка Лук'янчык і Вера Адамовіч**. Кожны з іх атрымаў дыплом і плюшавага мядзведзіка. Спецыяльным прызам сімпатый была адзначана **Марына Станкевіч**.

Цікава, што такіх маладых удзельнікаў арганізатары не пакінулі сумаваць, пакуль журы раілася і падпісвала дыпломы. Баба Яга, Пачвара і Нячысцік спачатку спрабавалі перашкаджаць сваімі чарамі, а пасля выправіліся і арганізавалі гульні, якія зацікавілі ўсіх мастакоў-пачаткоўцаў, нават самых сур'ёзных і "па-даросламу" настроеных.

**Святлана ЦІШКО.**

### Юбіляру – 100 гадоў



Векавы юбілей адзначае гэтымі днямі жыхар Маладзечна Сцяпан Жукаў.

2-я старонка

### Будзем з дрывамі



Бульба выкапаная, самы час нарыхтоўваць дровы.

6-7 старонкі




© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



■ НАШЫ ГРОШЫ

# Каб з'есці Біг Мак, працуем 2 гадзіны

**Для таго, каб зарабіць на Біг Мак, жыхару сталіцы Кеніі Найробі сёння трэба працаваць тры гадзіны, жыхару Лос-Анджэлеса альбо Чыкага – усяго дзесяць хвілін. Гэты паказчык, які ў эканамічных даследаваннях так і завецца – "індэкс Біг Мак", найлепшым чынам адлюстроўвае ўзровень жыцця ў розных краінах свету. Брытанскі часопіс Economist публікуе гэты індэкс, пачынаючы ад 1986 года.**

Часопіс Economist друкуе індэкс Біг Мак у выглядзе табліцы. Яна ўяўляе сабой як бы перагорнутую піраміду, у самым нізе якой – Злучаныя Штаты, а на самым версе Кенія, Пакістан і Індыя. Табліца пабудаваная на падставе звестак швейцарскага інвестыцыйнага банка UBS – аднаго з найбуйнейшых у свеце.

Гэты банк ужо шмат гадоў займаецца даследаваннем пакупніцкай здольнасці – гэта значыць, суадносінаў зарплаты і цэнаў – у розных сталіцах свету. Вынікі гэтых даследаванняў можна бачыць, дарэчы, на сайце www.ubs.com.

Сёлета паводле індэксу Біг Мак, самы лепш паказчык пасля амерыканскіх гарадоў, пра якія мы сказалі напачатку, у швейцарскім Цюрыху: 14 хвілінаў, а таксама ў швейцарскім Базэлі і ў сталіцы Аўстрыі Вене – 15 хвілінаў. Са сталіцаў Цэнтральнай і Ўсходняй Еўропы найлепшы паказчык у Празе – 42 хвіліны. У Братыславе індэкс роўны 54, а ў Бухарэсце і Кіеве амаль аднолькавы паказчык – прыблізна гадзіна 20 хвілінаў.

Натуральна, хацелася б даведацца – а які ж індэкс у Мінску?

На жаль, Мінск у спісе сталіц, які прыводзіць UBS, адсутнічае. Справа ў тым, што даследаванні праводзяцца толькі ў тых краінах, якія самі выказваюць жаданне ў іх удзельнічаць.

Аднак, можам паспрабаваць падлічыць хаця б прыблізна. Паводле звестак Міждзяржаўнага статыстычнага камітэта СНД, сярэдняя намінальная зарплата ў Беларусі ў першай палове году складала 112 долараў за месяц. Калі ўлічыць, што Біг Мак у Мінскай рэстарацыі McDonald's каштуе 2740 рублёў (а гэта ў пераліку прыкладна 1 долар 30 цэнтаў), дык значыць, сярэднестатыстычны беларускі працаўнік, які працаваў 24 дні па восем гадзінаў, зарабляў гэты Бік Мак больш за 2 гадзіны. Гэта лепш, чым у жыхара Найробі, але горш, чым у калумбійскай Багаце.

Чаму ўсё-ткі адмыслоўцы ўзялі за адзінку падліку Біг Мак?

Эканамісты лічаць гэты паказчык зручным, паколькі Біг Мак ёсць стандартнай ежай, і яго купляюць фактычна ва ўсіх краінах свету. Пры гэтым, цана яго ўнутры адной краіны таксама, як правіла, стандартная і яе лёгка падлічыць у доларах.

Зразумела, мы не гаворым тут пра папулярнасць так званага фаст-фуду (хуткага харчавання) ці пра стаўленне антыглабалістаў да карпарацыі McDonald's.

Дарэчы, калі ўзяць блізкі да індэксу Біг Мак паказчык – колькі трэба працаваць, каб зарабіць на кілаграм хлеба, тут сітуацыя для беларусаў выглядае крыху лепей – прыблізна 30 хвілін. У Таліне гэты паказчык – 34 хвіліны, у Рызе – на дзесяць хвілін менш, у тым самым Лос-Анджэлесе – 16, а ў Цюрыху – усяго сем.

**Віталь ТАРАС, Радыё "Свабода".**




■ УСЕ ЧАТЫРЫ КОЛЫ

# Дзень кароткі тоіць небяспеку

**26 верасня ў Мінскай вобласці дзяржаўная аўтаінспекцыя праводзіць адзіны дзень бяспекі дарожнага руху. У цэнтры яго — праблемы, звязаныя са скарачэннем дня.**

З надыходам восені рэзка ўзрастае колькасць дарожна-транспартных здарэнняў з удзелам пешаходаў, веласіпедыстаў і гужавых павозак. Выклікана гэта ў першую чаргу змяншэннем дня, пагаршэннем надвор'я, ажыўленнем руху на загарадных аўтадарогах — яшчэ ідзе жніво і капаюць бульбу. Шмат здарэнняў адбываецца на змярканні і ноччу па віне саміх пешаходаў. У сувязі з гэтым дзяржаўтаінспекцыя звяртаецца да вадзіцеляў і пешаходаў.

**Паважаныя вадзіцелі!**

Калі рухаецеся ў цёмны час сутак або на ўмовах недастатковай бачнасці, на механічных транспартных сродках, павінны быць уключаныя фары далёкага або блізкага святла.

Пры сустрэчным раз'ездзе на адлегласці не менш за 300 метраў да транспартнага сродку, а таксама на большай адлегласці, калі вадзіцель сустрэчнага транспартнага сродку перыядычным пераключэннем святла фар пакажа неабходнасць гэтага, пераключайце дальняе святло на блізкае.

Пры асляпленні вадзіцель павінен уключыць аварыйную светлавую сігналізацыю і, не мяняючы паласы руху, знізіць хуткасць і спыніцца.

У гэты час года асаблівую небяспеку ўяўляе туман.

Будзьце асабліва ўважлівымі ў цёмны час сутак у населеных пунктах і паблізу іх, дзе ўзрастае магчымасць з'яўлення пешаходаў, веласіпедыстаў і вазніц. Хуткасць вашага транспартнага сродку павінна выбірацца зыходзячы з бачнасці, стану праезнай часткі, надвор'я і нечаканага з'яўлення небяспекі.

**Паважаныя пешаходы!**

Вы павінны рухацца па тратуарах, пешаходных або веласіпедных дарожках або абочынах. А ў выпадку іх адсутнасці — па краі праезнай часткі насустрач руху транспарту.

Пераходзіць праезную частку дарогі трэба па пешаходных пераходах, а ў выпадку іх адсутнасці — па скрыжаваннях па лініі тратуараў або абочын.

Пры адсутнасці ў зоне бачнасці перахода або скрыжавання пераходзіць дарогу трэба пад прамым вуглом да яе восі на ўчастку, дзе дарога добра праглядаецца ў абодва бакі, упэўніўшыся ў бяспецы.

Выйшаўшы на праезную частку, пешаходы не павінны затрымлівацца або спыняцца, калі гэта не звязана з бяспекай руху.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ ЦЭНЫ

## Кошты выраслі

**На 0,5 працэнта выраслі спажывецкія цэны ў Беларусі за першыя два тыдні верасня.**

З пачатку года цэны выраслі на 17 працэнтаў пры гадавым прагнозе ўрада і Нацыянальнага банка 18—24 працэнты.

За студзень-жнівень і першыя два тыдні верасня 2002 года цэны ў Беларусі павысіліся на 24 працэнты.

**Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН.**

■ ГРОШЫ

## «Паперак» паболела

**Аб'ём грашовай масы ў Беларусі на 1 жніўня склаў 2,8 трлн. рублёў і павялічыўся за студзень-ліпень 2003 года на 40 працэнтаў пры росце спажывецкіх цэн за гэты перыяд на 16,2 працэнта.**

Аб'ём наяўных грошай у абарачэнні склаў на 1 жніўня гэтага года 803,6 млд. рублёў.

**Аляксей АРЭШКА, БелаПАН.**

■ ВЁСКА

# Развітаемся з мінулым?

**МАЛАДЗЕЧНА. Калі паглядзець на спіс гаспадарак раёна нейдзе 15-гадовай даўнасці, то вока так і спатыкалася на такіх прывычных і распаўсюджаных паўсюль назвах, як калгасы імя Леніна і "Шлях Леніна", імя Жданава і імя Дзяржынскага, імя Кірава і імя Калініна, "50-годдзе Кастрычніка" і "За ўладу Саветаў"...**

Першымі выраашылі адмовіцца ад нядобрай памяці галоўнага сталінскага ідыёлага Жданава гарадзілаўцы. Паступова калгасы развіталіся з адыёзнымі і аджыўшымі назвамі. Зніклі з карты раёна напаміны пра Леніна і яго паплечнікаў. З'явіліся гаспадаркі "Маркава", "Бацькаўшчына", "Селяўцы", "Бярозіна", "Сасноўка"... Але частка сельгаспадпрыемстваў па-ранейшаму прытрымлівалася прывычных назваў.

У гэтым годзе адбылася рэарганізацыя калгасаў і пераўтварэнне іх у сельскагаспадарчыя вытворчыя кааператывы (СВК). Пры гэтым шэраг гаспадарак памяняў назвы. Замест калгаса імя Дзяржынскага ўзнікла СВК "Хажова-агра", калгас "Кастрычнік" стаў СВК "Пекары", "Герой працы" – СВК "Хоўхлава", "Светлы шлях" – СВК "Заскавічы", калгас імя Гастэлы – СВК "Насілава". Толькі адно сельгаспадпрыемства засталося "іменным" – СВК імя Янкі Купалы.

Назвы, шыльды, пячаткі і бланкі памяняліся. Унесены пэўныя змяненні ў разнастайныя статутныя дакументы. Вось толькі ці памяняецца штосьці ў нашай сельскай гаспадарцы, у жыцці простых вяскоўцаў? Ці не атрымаецца, што развітанне са "светлым мінулым" толькі знешняе? Пабачым...

**Віктар МАКАРАЎ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 18.09 руб. | 25.09 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2102,00 | 2105,00 |
| Еўра | 2348,56 | 2412,12 |
| Злоты | 524,06 | 537,33 |
| Літ | 680,30 | 698,06 |
| Расійскі рубель | 68,51 | 69,12 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 2100/2100 | 2100/2125 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 17.09 | 24.09 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 12500 | 12630 |
| Сасіскі, 1 кг | 4200 | 4130 |
| Селядзец, 1 кг | 2800 | 2800 |
| Рыс, 0,9 кг | 780 | 780 |
| Грэчка, 0,9 кг | 1300 | 1300 |
| Цукар, 1 кг | 1310 | 1310 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1100 | 1150 |
| Алей, 1 л | 2000 | 2000 |
| Маянэз, 200 г | 460 | 490 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2200 | 2200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 750 | 800 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 870 | 800 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 850 | 750 |
| Капуста, 1 кг | 250 | 200 |
| Морква, 1 кг | 500 | 550 |
| Лімоны, 1 кг | 1800 | 1650 |
| Апельсіны, 1 кг | 1900 | 1900 |
| Памідоры, 1 кг | 900 | 850 |
| Перац, 1 кг | 750 | 750 |
| Кавуны, 1 кг | 450 | 400 |
| Яблыкі, 1 кг | 1000 | 800 |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 730 | 750 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 2600 |
| Масла, 1 кг | 5000 | 5000 |
| Тварог, 1 кг | 1700 | 2000 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1700 | 1500 |
| Бульба, 1 вядро | 2600 | 2500 |
| Яблыкі, 1 кг | 1000 | 1000 |
| Журавіны, 5-літр. вядро | 12000 | 10000 |

■ ЗАМЕЖНЫЯ СУВЯЗІ

# Беларусь–Тайвань

**Прадстаўнікі тайваньскіх і беларускіх прадпрыемстваў дамовіліся ў Мінску аб узаемных заказах на пастаўку прадукцыі на агульную суму 170 тысяч долараў ЗША.**

Прагназуецца, што ў перспектыве патэнцыяльны аб'ём здзелак можа скласці 6 млн. долараў. Па ацэнцы кіраўніцтва дэлегацыі дзелавых колаў Тайваня, якая наведала Беларусь 13—17 верасня, перамовы ў Мінску «прайшлі паспяхова і перавысілі чаканні бізнесменаў Тайваня». Пра гэта паведамілі БелаПАН у Тайбэйскай гандлёва-эканамічнай місіі ў Мінску.

У працы біржы ўдзельнічалі прадстаўнікі 44 тайваньскіх кампаній, Прадстаўніцтва экспартна-імпартнага банка Тайваня ў Варшаве, Тайваньскай асацыяцыі машынабудавання, а таксама Асацыяцыі трыкатажу, экспарцёраў і імпарцёраў Тайбэя па працы з краінамі Цэнтральнай і Ўсходняй Еўропы і СНД. З беларускага боку удзел у перамовах узялі 260 чалавек, якія прадстаўлялі больш чым 200 прадпрыемстваў і арганізацый.

**Ірына САЗАНОВІЧ, БелаПАН.**

РУП «Ніва-ЗОС» закупляе ў насельніцтва
буйную рагатую жывёлу
сярэдняй і ніжэй сярэдняй укормленасці.
Т. у Смаргоні 22660.

НАРКАЛОГІЯ
Перарыванне запою.
Амбулаторны прыём (ананімна).
Маладзечна, вул.Чкалава, 5 (басейн)
Тэл. 36136, (8-029) 7743373.
Ліц.МЗ РБ №2666 АМ да 24.04.2008

ПЯЧАТКІ, ШТАМПЫ, ГРАВІРОЎКА
г. Маладзечна, вул. Буйніцкага, 63,
тэл./факс 54402. ТДА «ВІЗІТ».
Ліц. №006 МУС РБ ад 20.05.1998 г. да 20.05.2003 г.

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



# Шымону Перэсу – 80

**Святкаванне 80-годдзя з дня нараджэння аднаго з самых знакамітых нашых землякоў ураджэнца валожынскага Вішнева Шымона Перэса на гэтым тыдні застаецца ў цэнтры ўвагі ўсіх вядучых СМІ свету**

21 верасня з юбілеем былога прэм'ер–міністра Ізраіля, аднаго з лідэраў партыі працы "Авода" і Сацыялістычнага інтэрнацыянала павіншавалі былыя або сённяшнія лідэры практычна ўсіх краін "Ад Аўстрыі да Анголы", — піша "The New York Times". У тым ліку Біл Клінтан, Міхаіл Гарбачоў і дзейсны прэм'ер–міністр Ізраіля Арыель Шарон.

Заслугі Перэса перад Ізраілем і светам прызнаюць як сябры, так і сапернікі.

Перэс пачаў палітычную кар'еру яшчэ ў канцы 1940–х, у камандзе легендарнага ізраільскага прэм'ера Бэн–Гурыёна. Пасля ён прызначаўся міністрам абароны, галавой МЗС, двойчы выконваў абавязкі прэм'ера. Але "зорны час" Перэса – гэта 1993 год, тады ён быў "другім нумарам" у камандзе Іцхака Рабіна. Дзякуючы намаганням Перэса Ізраіль падпісаў пагадненне з Арганізацыяй вызвалення Палесціны, з Ясірам Арафатам. Год пазней Перэс, Рабін і Арафат становяцца нобелеўскімі лаўрэатамі. Яшчэ праз год Рабіна забілі.

"Я веру ў тое, што мір настане ў самым блізкім будучым, нягледзячы на ўсе цяжкасці і праблемы. Таму што ў ізраільцянаў і палесцінцаў няма іншай альтэрнатывы, акрамя як жыць у згодзе", — кажа Шымон Перэс. Па словах юбіляра, ён мае намер заставацца ў вялікай палітыцы.



**15 студзеня 1998 года Сямён Перскі, а цяпер ужо славуты на ўвесь свет палітык і міратворца Шымон Перэс зноў піў ваду з вішнеўскай студні.**
**У год нараджэння Сямёна Перскага, будучага Шымона Перэса, у Вішневе жыло каля 200 яўрэйскіх сем'яў. Яго бацька працаваў лесніком і зрэдку бываў дома. Таму Сямён прывязаўся да дзеда – вясёлага шаўца, знатака святой кнігі Торы і яўрэйскай паэзіі. Дзед, па словах Перэса, быў крыніцай мудрасці.**
**Сямён на ўсё жыццё палюбіў паэзію. У 9 гадоў у Вішневе напісаў свае першыя вершы. Некаторыя з іх ён паслаў Хаіму Нахману Бяліку – вялікаму нацыянальнаму паэту. Бялік адказаў хлопчыку, адзначаючы яго адоранасць.**
**Усе вішнеўскія яўрэі былі сіяністамі і марылі трапіць на святую зямлю Палесціны. У 1931 годзе такі выпадак выпаў бацьку Сямёна. А праз два гады, разбагацеўшы на гандлі збожжам і адчуўшы, што цвёрда стаіць на нагах, ён выклікаў да сябе жонку і дзяцей. Вясной 1933 года маці з Сямёнам і яго малодшым братам Гіршам далучылася да галавы сям'і.**

Фота Bymedia.Net



**1923. Шымон Перэс (Сямён Перскі) нарадзіўся ў Вішневе Валожынскага павета.**
**1934. Сям'я эмігрыруе ў Палесціну.**
**1977. Становіцца лідэрам працоўнай партыі "Авода" і прэм'ер–міністрам Ізраіля.**
**1984. Прэм'ер–міністр першай паловы перыяду кіравання кааліцыйнага ўрада партыі "Авода" разам з партыяй "Лікуд".**
**1986. Прадстаўнік прэм'ер–міністра ва ўрадзе Іцхака Шаміра.**
**1988. Міністр фінансаў у новым кааліцыйным урадзе.**
**1992, чэрвень. Міністр замежных спраў.**
**1993, 13 верасня. Падпісвае мірнае пагадненне ў Осла.**
**1994, 10 снежня. Атрымлівае Нобелеўскую прэмію міру разам з палесцінскім лідэрам Ясірам Арафатам і Іцхакам Рабіным.**
**1995, лістапад. У сувязі з забойствам Рабіна становіцца новым прэм'ер–міністрам.**
**1996, 21 мая. Прайграе выбары на пасаду прэм'ер–міністра Бэнджаміну Нетаніяху.**

## Перэс — бацька арміі Ізраіля

**Армія Ізраіля, адна з лепшых армій у свеце, стала такой за нейкі дзесятак–паўтара год. У першую чаргу дзякуючы выключна цывільнаму чалавеку, ураджэнцу Валожыншчыны Шымону Перэсу.**

Пасля вяртання ў 1952 годзе з Амерыкі, дзе Перэс знаходзіўся на дыпламатычнай рабоце і адначасова вучыўся ў Гарвардзе, ён становіцца генеральным дырэктарам Міністэрства абароны Ізраіля. У той час перад ім стаяла задача не толькі замацаваць абарончую здольнасць узброеных сіл, але і закласці падмурак ізраільскай абарончай прамысловасці.

На гэтай пасадзе, яшчэ не дасягнуўшы 30 год, Перэс здолеў падпарадкаваць свайму кантролю значную частку дзяржаўнага бюджэту, а паступова – і прамысловасці Ізраіля, якая стала выконваць шматлікія заказы. Гэта пасада з'явілася важнай прыступкай у яго ўзыходжанні па палітычнай лесвіцы, паколькі садзейнічала яго фарміраванню як кіраўніка.

Несумненна, што з тых, хто займаў пасаду генеральнага дырэктара, найбольш след пакінуў менавіта Перэс. На працягу 10 год службы ў Міністэрстве абароны ён характарызаваўся (і ў якасці пахвалы, і ў якасці асуджэння) як "выканаўца", "тэхнакрат нумар 1", "прапаведнік мадэрнізацыі". Сябры Перэса лічылі, што ёнператварыў навуковыя даследаванні, развіццё і вытворчасць у галіне абароны ў рычаг для абнаўлення цывільнай прамысловасці Ізраіля. Працаўнікі абвінавачвалі яго ў стварэнні "ваенна–прамысловага комплексу, які з'ядае вялізную долю грамадскіх сродкаў".

Так ці інакш, але менавіта Перэс адыграў ключавую ролю ў стварэнні авіяцыйнай, электроннай і абарончай прамысловасці, рэарганізаваў навукова–даследчую працу ў ваеннай сферы. Ён прыклаў нямала намаганняў у пошуках крыніц забеспячэння тымі відамі зброі, вытворчасць якіх не магла быць наладжаная ўнутры краіны. Ужо ў 1954 годзе ў яго атрымалася зрабіць заказ на пастаўку першых самалётаў і танкаў з Францыі. Пры гэтым ён змог умацаваць стасункі з тымі французскімі дзеячамі, хто быў звязаны з Міністэрствам абароны.

Пазней ён суправаджаў Бэн–Гурыёна падчас яго сакрэтнай паездкі ў Парыж для канчатковага ўзгаднення сумесных ваенных дзеянняў перад нападзеннем на Егіпет у 1956 годзе. Пасля заканчэння той вайны Перэс быў узнагароджаны французскім урадам ордэнам Ганаровага легіёну.

**Мікола ГАЙДУК.**

## У «Гармоніі» са светам

**МАЛАДЗЕЧНА. На мінулым тыдні ў пасёлку Чысць прайшоў "круглы стол" па абмеркаванні пытанняў працы з «праблемнымі» падлеткамі. Арганізатарам выступіла грамадскае сацыяльна-спартыўнае аб'яднанне «Гармонія».**

На сёння ў Чысці жыве больш за 5000 чалавек. З іх 1800 – непаўналетнія. Рост правапарушэнняў з боку падлеткаў, на думку «Гармоніі», у склад якой уваходзяць выкладчыкі сярэдняй школы, мастацкіх і спартыўных устаноў, дэпутаты мясцовага савета і грамадскія актывісты, звязаны з адсутнасцю альтэрнатывы хуліганству і распіццю алкаголю. А таму арганізатары праекта «Грамадская дапамога «праблемным» падлеткам» праводзяць вячэрнія рэйды, сустрэчы з сем'ямі, каб прыцягнуць іх да ўдзелу ў творчых гуртках альбо спартыўных секцыях.

Гэта практыка мае вынікі. Старшыня ГССА «Гармонія» — выкладчык сярэдняй школы **Уладзімір Звернік** трэніруе каманду з 14 чалавек па плаванні. Уладзімір Іванавіч прызнаецца, што не ўсе яны перспектыўныя спартсмены, але ж кожнаму з іх патрэбна падтрымка і шанс на лепшае жыццё. Гэты чалавек усімі сіламі стараецца падарыць шчаслівыя імгненні дзяцінства сваім вучням. За лета было праведзена адкрытае першынство па веласіпедных гонках, спаборніцтва па плаванні з камандамі сталічнай школы. На іх мясцовы вучань **Саша Маўрын** заняў першыя тры месцы. Каманда пабывала ў мінскім басейне «Лакаматыў», парках Купалы і Горкага. У планах – экскурсіі па Беларусі і замежжы.

Нехта скажа, што ўсё гэта дробязі для невялікай купкі «шчаслі́ўчыкаў». Так, дробязі... Але менавіта з такіх дробязяў і пачынаюцца вялікія справы. Калі кожны з нас задумаецца і азірнецца навокал, то ўбачыць сотні пар самотных вачэй, якім неабходна дапамога.

**Ян АКУЛІН, студэнт факультэта журналістыкі БДУ.**

**У Маладзечанскім раёне дзейнічаюць 2 дзіцяча-юнацкія спартыўныя школы і 1 дзіцяча-юнацкі клуб. 1032 чалавекі займаюцца баскетболам, футболам, настольным тэнісам, лёгкай атлетыкай, плаваннем, конным спортам, грэка-рымскай барацьбой і стральбой. У шасці музычных школах і Радашкавіцкай школе мастацтваў займаюцца больш за 600 чалавек. З гэтага года ў Гарадку пачаў працаваць філіял Аляхновіцкай музычнай школы.**

## Дзе памяць кроўная жыве...

**МАЛАДЗЕЧНА. 19 верасня пад дахам Палаца культуры прайшла прэзентацыя гісторыка-дакументальнай хронікі "Памяць" горада Маладзечна і Маладзечанскага раёна.**

Выхаду хронікі ў свет папярэднічала руплівая праца гісторыкаў, навукоўцаў, кіраўнікоў навучальных устаноў і прадпрыемстваў на працягу 10 гадоў. Падмурак гэтай унікальнай кнігі заклаў сваімі артыкуламі вядомы краязнаўца Генадзь Каханоўскі. Яго сын Аляксандр, загадчык кафедры гісторыі Беларусі Белдзяржуніверсітэта, з гонарам прадоўжыў справу бацькі. Па словах прысутных, выхад кнігі ажыццявіўся дзякуючы намаганням **Любові Карповіч**, якая першай узяла слова. У яе голасе адчувалася хваляванне. І не дзіва, бо гэта кніга стала працай яе жыцця.

Прамовы вядомых краязнаўцаў і навукоўцаў суправаджаліся паказам выдатных мясцін Маладзечаншчыны на вялікім экране. Так старонку "Пад каронай Расійскай імперыі" прэзентаваў рэдактар альманаха "Куфэрак Віленшчыны" **Міхась Казлоўскі**, а пра падзеі 1941 – 1945 гадоў расказваў **Георгій Хадасевіч**, які ўдзельнічаў у вызваленні горада.

Акрамя таго, прысутных зараджалі добрым настроем выступленні хору музвучылішча імя Агінскага пад кіраўніцтвам В. Кахаsuccоўскай, танцавальнага ансамбля Палаца культуры пад кіраўніцтвам Л. Барысевіч, а таксама ансамбляў народных песень "Маркаўчанка" і "Самаходы". Асабліва прыемна, што прэзентацыя кнігі супала з вераснёўскімі днямі беларускай пісьменнасці, бо напісана яна на роднай мове і нясе ў сабе разгадку многіх таямніц гісторыі і культуры нашага краю.

**Ян АКУЛІН, студэнт журфака БДУ.**

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



# Дровы з восені рыхтуюць

**Рыхтуй летам сані, а зімой калёсы, гаворыць народная мудрасць. Пераклаўшы яе на свой лад, запаслівыя вяскоўцы і гараджане, у дамы якіх пакуль што не прыйшоў газ, пачалі нарыхтоўку дроў.**

"Бульбу выкапаем – і ў дровы", – прысеўшы на прызбе хаты пасля цяжкага працоўнага дня, гаварылі мужчыны ў нашай вёсцы. А даесьці ў сярэдзіне кастрычніка, пачатку лістапада і сапраўды, узброіўшыся піламі і сякерамі, спяшаліся, пакуль снег не лёг, у лес.

Адзін з такой работай не справішся, таму сусед дапамагаў суседу, брат – брату і праз нейкі час ля платоў на вуліцы ляжалі цэлыя штабялі бярвенняў. На наступны тыдзень іх перапілоўвалі ў цурбаны, затым – у дровы, ад якіх у адзін і той жа час пахла свежасцю, лесам, смалой.

З цягам часу вёска пастарэла, і ў дварах усё радзей і радзей чуецца цюканне сякер. Вяскоўцы сталі аддаваць перавагу дрывам гатовым. Кажуць, танней купіць, чым заняць дзялянку ў лесе, наняць людзей, транспарт, каб іх вывезці. Тыя ж, каму дазваляюць сілы і магчымасці, па-ранейшаму спраўляюцца самастойна. Адзін складаметр дроў пры гэтым, напрыклад, у Багданаўскім лясніцтве Валожынскага раёна абыходзіцца вяскоўцам у 2 тысячы рублёў. А вось у Мядзельскім раёне, як расказалі ў Дзяржаўнай прыродаахоўнай установе "Нацыянальны парк Нарачанскі", той, хто займаецца саманарыхтоўкай, плаціць за кубічны метр лесу толькі 70 рублёў, такая ж колькасць, але з паслугамі лясніцтва, абыдзецца ў 5 тысяч.

Можна купіць і гатовыя дровы, якія ёсць ва ўсіх раённых канторах паліва. У Маладзечанскай, напрыклад, адзін складаметр цурбаноў пілаваных абыдзецца кліенту ў 8 тысяч рублёў, а дроў колатых – 10. Чаргі пры гэтым няма ніякай, як і транспартных праблем, паліва ў двор можна даставіць тэхнікай гэтай арганізацыі.

Акрамя таго, амаль у кожным раёне ёсць цэхі, піларамы, якія займаюцца распілоўкай лесу. Некандыцыю, або абрэзкі, яны з задавальненнем прадаюць насельніцтву па чыста сімвалічных цэнах.

А ў Гарадзькаўскім сельсавеце Валожынскага раёна запасы дроў людзі робяць за кошт сумеснага беларуска-літоўскага прадпрыемства. Страявы лес рабочыя адпраўляюць на будоўлі, а тое дрэва, што не адпавядае стандартам, прадаюць вяскоўцам. Лесавоз каштуе 40-45 тысяч рублёў, у суму ўваходзіць і распілоўка, якую пастаўшчыкі робяць прама ў двары пакупніка.

Асобныя кемлівыя вяскоўцы паспелі купіць за гэты час па некалькі лесавозаў дроў, бо запас, як кажуць, бяды не чыніць.

**Марына СЛІЖ.**



Віктар Бажко жыве ў вёсцы Вязавец, што ў Маладзечанскім раёне. Як і кожны дбайны гаспадар, мае ў двары не адзін клад дроў, нарыхтоўку якіх лічыць мужчынскай справай. Фота Марыны СЛІЖ.

## Дзе бяруць турысты дровы?

**"Неразумнае пытанне, – скажаце вы. – І без таго зразумела, што ў лесе". "А вось і не заўсёды", – пярэчыць прэзідэнт маладзечанскага турклуба "Пілігрым" Сяргей Бялкоў, які пра дровы, здаецца, ведае ўсё. Сёння ён згадзіўся падзяліцца з намі сваім досведам.**

Звычайна турысты шукаюць дровы на месцах стаянак. Але на такіх вялікіх мерапрыемствах, як турзлёт ці фестываль, арганізатары купляюць іх для ўсіх камандаў у лясніцтве. Здавалася б, зручна. Але лясніцтва прывозіць часам тоўстыя бярвёны: не ў кожнай каманде знойдзецца піла, каб іх распілаваць. Да таго ж яны бываюць сырыя.

Самай нізкай якасці, на думку Сяргея Бялкова, яловыя і сасновыя дровы: ад іх шмат дыму, забіваюць коміны. Добрыя толькі для рамантыкаў, якім падабаецца траскучае вогнішча з іскрамі. Лепшай якасці дубовыя і ясеневыя, але яны даюць столькі цяпла, што выгараюць цагліны ў печы. Найбольш прыдатныя для леснога вогнішча і для печкі бярозавыя дровы, але ў нашым рэгіёне самыя распаўсюджаныя хвойныя пароды дрэў. Царскія дровы – альховыя: гараць роўна, без іскраў і дыму, не трашчаць. Па цеплааддачы саступаюць толькі бярозавым і дубовым. Іх сапраўды пастаўлялі для царскага двара.

Навічкам у турызме бывае цяжка распаліць вогнішча пасля дажджу. Сакрэт у гэтай справе адзін: распалка павінна быць сухой. Калі не захавалася сухіх паленцаў, трэба расколоць адно з іх і нашчапаць лучыны з сярэдзіны. А пра тое, што добра гарыць бяроста і смала, ведаюць, мусіць, усе.

Шмат што залежыць ад запалак. Турысты невысокай думкі пра барысаўскія і пінскія. Любяць расказваць такі анекдот. Вялікая Айчынная вайна. Партызаны прымацавалі да рэйкаў узрывчатку і спрабуюць падпаліць бікфордаў шнур. Запалкі шыпяць і гаснуць, а нямецкі патруль набліжаецца. Немцы:

– Хальт! Партызанен?
– Мы.
– Барысаўдрэў?
– Так.
– А, дафай, дафай, – спакойна адказваюць немцы і ідуць далей.

У паходах Сяргей Бялкоў раіць карыстацца запалкамі спецыяльнага прызначэння. Запалка пляскатая, утрая даўжэйшая за звычайную, гарыць 7 секунд, добрая для непагадзі. Дваццаць штук каштуюць 2500 рублёў.

У гарах ці невялікіх паходах па Беларусі можна карыстацца і прымусам. Вялікім попытам карыстаюцца газавыя гарэлкі дыяметрам 10 см і вышынёй 15 см, каштуюць 70 долараў. Нашым турыстам яны пакуль што не па кішэні.

Усё гэта тычыцца турыстаў-спартсменаў, у якіх кожны грам і міліметр у заплечніку падлічваюцца. Для тых, хто мае аўтамабіль і збіраецца на пікнік, на АЗС разам з мангаламі прадаецца вугаль (5030 рублёў за 5 кг) і бярозавыя дровы (3280 рублёў за 10-12 плашак), запакаваныя ў сеткі, і спецыяльная вадкасць для распалкі.

**Святлана ЦІШКО.**

## Механічны дрывасек

**Кожны з нас хоць раз у жыцці калоў дровы ці глядзеў, як гэта робяць іншыя. Памятаеце: ставім цурбан на калодку, узнімаем сякеру, апускаем на цурбан і пачынаем усё спачатку. Цяжкая праца, што ні кажы. Асабліва калі бярвёны сукаватыя.**

Не ўсе ведаюць, што аблегчыць жыццё можа машына-калун. У раённых арганізацыях, што нарыхтоўваюць паліва, карыстаюцца выключна імі. У Маладзечанскім гарпалівазбыце такія дзве. Адну ўсталявалі 12 гадоў таму. Уяўляе з сябе калодку з калуном, які прыкладна раз на секунду апускаецца ўніз. Рабочаму трэба толькі мець спрыт, каб падставіць цурбан пад патрэбным вуглом.

Другая машына працуе ў гэтай арганізацыі толькі 2 гады. Яна адпавядае ўсім патрабаванням тэхнікі бяспекі, атрымаць траўму амаль немагчыма. Рабочы кладзе кавалак бярвяна за агароджу, яно падае ў жолаб, металічны цыліндр ціснe яго на калун, і гатовыя цурачкі выпадаюць вонкі праз адтуліны. Прадукцыйнасць – 15 кубаметраў за змену. Паспявай толькі збіраць.

Маладзейшыя заказчыкі аддаюць перавагу рэзаным дрывам, пенсіянеры купляюць колатыя. Найбольшы попыт на елку, бярозу заказваюць рэдка, пераважна для лазняў. Але яе паступае мала: вакол Маладзечна ўсыхаюць яловыя лясы, і лясгас стараецца найперш збыць елку.

Бярвёны ў такіх арганізацыях таксама ніхто ўручную не пілуе. Ёсць машына, якая наразае цурбаны даўжынёй 32 ці 50 см (па жаданні заказчыка).

**Святлана ЦІШКО.**



Андрэй Ульянка працуе на дрываколе Маладзечанскага гарпалівазбыту паўгода. Кажа, што ніякіх прафесійных сакрэтаў не мае. Чым меншыя перакуры, тым большы заробак. Фота Святланы ЦІШКО.

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



# Пілуем, колем, складаем…

## Парада ад бобрыка Рэгіянчыка

**Калі невысокую калоду паставіць унутры двух старых пакрышак, то гэта спросціць працэс колкі дроў. Па–першае, паленцы не разлятаюцца якое–куды. Па–другое, нават самы няўстойлівы цурбан не паваліцца.**

**А вы, дарагія чытачы, ведаеце якія хітрыкі ў вядзенні гаспадаркі? Падзяліцеся імі з бобрыкам Рэгіянчыкам, які жыве ў Маладзечне па адрасе: 222310, Вялікі Гасцінец, 68 а, "Рэгіянальная газета". Дашліце сакрэт нашаму сябруку і ён падзеліцца ім з астатнімі.**



■ ПАРАДА

**Пілуем за дваіх. Аксіёма: двухручнай пілой рэжуць удвух. Але бываюць выключэнні. Прыходзіцца пілаваць і аднаму. У такіх выпадках для аблягчэння работы раім паміж ручкамі пілы ўставіць драўляную рэйку.**



## Як калоць дровы

**Колюць дровы на масіўнай падстаўцы, зазвычай калодзе, адпілаванай ад тоўстага бервяна. З часам верхні тарэц калоды ад доўгай работы пакрываецца шматлікімі насечкамі ад удараў цурак, калуна і сякеры. Аднак правільна выбраная калода не расколваецца, а стойка супрацьстаіць гэтым неверагодна вялікім нагрузкам.**

Для калоды заўсёды стараліся браць сучкаватую частку бервяна, якое немагчыма расколоць выпадковымі, нават моцнымі ўдарамі. Сучкі, якія выходзяць вонкі, часта застаюцца некранутымі: зручна пры неабходнасці пераносіць калоду з месца на месца.

Пастаўленыя на калоду тонкія цурбаны расколваюць сякерай, а тоўстыя — з дапамогай калуна і металічных або драўляных кліноў. Аднак для дасведчаных дрыкаваколаў дастаткова адной сякеры.

Каб паспяхова калоць дровы, перш за ўсё неабходна мець спрыт. Спрытны чалавек, нават калі ён і не адрозніваецца вялікай фізічнай сілай, коле дровы, быццам шчоўкае арэшкі. Чалавек, недасведчаны ў гэтай справе, дзейнічае метадам спроб і памылак. Стукнуўшы па цурбану сякерай або калуном як давядзецца, ён рэдка трапляе з першага разу ў той самы лоўкі "пункцік".



На шляху сякеры найчасцей аказваецца сучок. Паступова прыходзіць разуменне таго, што калі ў цурбане ёсць сук, то лязо сякеры трэба ставіць уздоўж яго, а не ўпоперак. І на тым тарцы, ад якога гэты сучок знаходзіцца далей. Пры выкананні гэтай умовы цурбан лёгка расколваецца, а сучок адрываецца або застаецца збоку плоскасці расколу.

Калі цурбан расколаты напалам, з яго ўтвараюцца дзве **плахі**. Кожную з іх таксама расколваюць і атрымліваюць **чацвярціны**. Калі цурбан тоўсты, то кожная чацвярціна у сваю чаргу расколваецца напалам і атрымліваюцца паленцы–**васьмерыкі**. Аднак, калі справу маюць з вельмі тоўстымі калодамі, кожны васмярык можа быць расколаты яшчэ раз — упоперак стрыжнёвых прамянёў. Адно паленца атрымаецца трохгранным, а адно — чатырохгранным. Часам плахі расколваюць не на дзве часткі, а на тры. Атрымліваюцца шасцярыкі.

Гарэнне дроў у печы ў ва многім залежыць ад іхняй даўжыні, таўшчыні і нават формы. Хутка і лёгка гараць тонкія і кароткія паленцы, тоўстыя і доўгія — больш павольна, а занадта тоўстыя згараюць не поўнасцю і з іх часта атрымліваюцца галавешкі.

Пасля колкі дровы сохнуць у горцы. Калі ж пачынаюцца дажджы, горку перамяшчаюць пад павець або робяць дрывяны клад пад стрэшкай або ў адмысловай дрывотні, дзе яны дасохнуць.

### Задача

**Пры колцы дроў у цурбане засела сякера. Як лепш стукнуць аб калоду: уніз цурбаном або ўніз абухом сякеры, каб раскалоць цурбан?**

### Рашэнне

Пры ўдары аб цвёрдую апору, прадмет, які знаходзіцца зверху (сякера або цурбан) будзе рухацца па інэрцыі, расколваючы або расколваючыся. Чым большай будзе інэрцыя, тым мацней будзе расколванне. Інэрцыя, у сваю чаргу, большая ў больш масіўнага цела. Такім чынам, усё ў залежнасці ад суадносін масы сякеры і цурбана: калі маса сякеры большая, то яна павінна знаходзіцца зверху, г.зн. біць аб калоду трэба паленам, калі маса палена большая, то біць трэба абухом сякеры, каб палена было зверху.

**Сяргей ПУКЕЛА.**

■ ДАВЕДКА

Практыкай выяўлена, што найбольш аптымальная таўшчыня паленцаў, якія ўжываюць для палення рускай печы, напрыклад, роўная прыкладна 8–10 см. Такія дровы гараць дастаткова доўга роўным полымем і згараюць датла.

## Як пілаваць дровы

**Здавён бярвенні распілоўвалі на простых падстаўках, збітых з тоўстых жэрдак, — козлах. Канечне, хтосьці ў нашыя часы працэс рэзкі дроў механізаваў, выкарыстоўваючы для гэтага невялікую пілараму, электра– або бензапілу. Але большасць людзей усё ж пілуе дровы, як і ў ранейшыя часы, на козлах звычайнай двухручнай пілой.**

Козлы складаюцца з гарызантальнага бервяна дыяметрам 20–25 см, умацаванага на чатырох ножках, зробленых з чатырох перакрыжаваных тоўстых жэрдак.

Каб пілаваць было зручней, вышыню козлаў робяць з улікам росту пільшчыкаў. Яна павінна быць такой, каб верх бервяна, што рэжуць, быў на ўзроўні локця пільшчыка.

Даўжыню пілы таксама выбіраюць у залежнасці ад росту. Таму прамысловасць выпускае пілы самай рознай даўжыні.

Чым вышэйшы чалавек, тым даўжэйшая рука, для якой патрабуецца больш доўгая піла. Толькі ў гэтым выпадку пры пілаванні будзе рацыянальна выкарыстоўвацца ўвесь размах пілы, ад ручкі да ручкі. Ручкі пілы таксама павінны мець зручную форму і добра ляжаць у руцэ, інакш можна набіць мазалі. Усім гэтым патрабаванням адпавядаюць ручкі, крыху выгнутыя да сярэдзіны палатна. Іх лёгка зрабіць з вярбы, бярозы, чаромхі або клёну.

Каб у працэсе рэзкі драўніна не заціскала палатно пілы, яе зубы па чарзе разводзяць у розныя бакі. Пры разводцы, а таксама пры заточцы пілу мацуюць на варштаце з дапамогай кліноў. Для развядзення зубоў выкарыстоўваюць спецыяльныя разводкі. Найпрасцейшая — гэта металічная пласціна, у якой зробленыя рознай глыбіні прапілы.

■ ДАВЕДКА

Самая кароткая двухручная піла мае даўжыню 1 метр, а самая доўгая, разлічаная на высокіх людзей, — 1 метр 75 см.

Калі піла добра разведзеная і заточаная, бервяно кладуць на козлы і пачынаюць распілоўваць яго на цурбан, роўныя даўжыні будучых паленцаў.

Паленні не павінны быць вельмі кароткімі або вельмі доўгімі. Паступова, шляхам спроб і памылак нарыхтоўшчыкі дроў, не змаўляючыся, прыйшлі да высновы: справа ідзе спарней, калі даўжыня цурбана знаходзіцца ў межах 40–50 сантыметраў. З мяккай прамаслойнай драўніны (вольхі, вярбы, асіны) рэжуць больш доўгія цурбаны, а з цвёрдай (дуба, бярозы) – больш кароткія.

Менавіта такая даўжыня паленняў дазваляе чалавеку рацыянальна выкарыстоўваць свае сілы як пры пілаванні дроў так і пры колцы. Паленцы ж стасуюцца з памерамі большасці печак, а таксама найбольш прыдатныя для ўкладкі ў дрывяныя клады.

Звычайна на практыцы пільшчыкі робяць меркі памерам 40, 45 або 50 см. Мерка — гэта драўляная палка, якая мае на адным канцы выступ, што пры разметцы ўпіраецца ў тарэц бервяна, што пілуюць. Каб мерку можна было павесіць на рог козлаў, у ёй свідруецца адтуліна і прасоўваецца вяровачка. Вяроўку завязваюць у пятлю.

Перад тым, як адпілаваць цурбан, мерку прыкладаюць да бервяна і сярэдзінай пілы робяць запіл. Пачаўшы пілаваць сярэдняй часткай пілы, паступова павялічваюць размах пілавання. Кожны пільшчык толькі цягне на сябе пілу, стараючыся не націскаць на яе вельмі моцна. У гэтым няма неабходнасці, таму што піла выгнутая так, што яна без якіх–кольвечы вялікіх знешніх намаганняў лёгка ўразаецца ў драўніну.

**Сяргей ПУКЕЛА.**

## Дрывяныя клады

**Дрывяныя клады ладзяць звычайна каля сцяны будынка або глухога плоту.**

Каля сцяны забіваюць чатыры калы, якія павінны ўтрымліваць паленне з двух бакоў. Каб знізу паленцы не апынуліся на сырой зямлі, пад іх падкладываюць цэглу або каменне. У кладах паленцы ўкладваюць тарцамі вонкі так, каб яны былі злёгку нахіленымі.

Калы, якія абмяжоўваюць паленні, не павінны прагінацца пад іхнім ціскам, дзеля гэтага прыкладна на аднолькавай адлегласці адзін ад аднаго на рады паленняў укладваюць разгалінаваныя бярозавыя сукі. Гэта добра ўмацоўвае клады. Каб надаць трываласць "канструкцыі", паленцы таксама ўкладваюць "клетачкай". Клады майструюць пад самы дах. Калі яны складзеныя ля плота, то верх прыкрываюць непрамакальным матэрыялам: толем, рубероідам, кавалкамі шыферу і да т.п.

Умельцы добра складаюць дровы капой.

**Сяргей ПУКЕЛА.**



■ ПАРАДА

**Пілаваць дровы стане нашмат зручней, калі абсталяваць козлы сярэдняй апорай. Яна павінна быць крыху вышэйшай за крайнія, тады бервяно не будзе заціскаць пілу.**



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



**Здарылася непапраўнае. Дзяўчынка, якая першы раз ехала цягніком, не заўважыла, калі машыніст сцішыў ход, затым, убачыўшы, што ён праязджае станцыю Палачаны, саскочыла з яго і трапіла пад сустрэчны цягнік. Адбылася страшная трагедыя. Колы адрэзалі ёй абедзве нагі**

# Запозненая справядлівасць...

**Чатырнаццацігадовай дзяўчынай яна трапіла пад цягнік і засталася без абедзвюх ног. Іншы б апусціў рукі і не ведаў, як жыць. Марыя знайшла ў сабе сілы быць патрэбнай людзям.**

Нельга напісаць усеагульную гісторыю сваёй Айчыны без напісання мясцовай гісторыі, гісторыі жыцця людзей, з ліку якіх і цудоўны чалавек Марыя Лагвіновіч. Яе ўжо няма сярод нас, але яна жыве ў сэрцах тых, хто ведаў яе. У тым ліку і пляменніцы Рэгіны Астравух, дзякуючы ўспамінам якой і ўдалося музею гісторыі медыцыны Маладзечаншчыны сабраць гэты матэрыял.



Nr 1145
Nazwisko Lohinowiczówna
Imię Maria
Data urodzenia 21 listopada 1900 r.
Zawód nauczycielka
Wzrost średni
Twarz okrągła
Włosy szatynka
Wydany dnia 31 sierpnia 1938 r.
Szafałowicz

Пашпарт настаўніцы Марыі Лагіновіч, выдадзены 31 жніўня 1938 года войтам Лебедзеўскай гміны Маладзечанскага павета панам Шафаловічам. Дакумент знаходзіцца ў пляменніцы Марыі Лагіновіч маладзечанкі Рэгіны Астравух.

## Няшчасце

Нарадзілася Марыя Лагіновіч 21 лістапада 1900 года ў мнагадзетнай сялянскай сям'і ў вёсцы Баршчы, што каля Палачанаў Маладзечанскага раёна. Цяпер гэтай вёскі ўжо няма. Пяцёра дзяцей з ранняга дзяцінства прывучаліся да цяжкай хлебаробскай працы.

У чэрвені 1914 года на святых Пятра і Паўла яе старэйшая сястра Алімпія выйшла замуж у Маладзечна за Захара Астравуха, які працаваў на чыгунцы аглядчыкам вагонаў. Праз пару тыдняў да яе ў госці бацька прывёз малодшую сястру Марыю. 1 жніўня 1914 года пачалася першая сусветная вайна. Усюды трывога. У заходніх губернях аб'яўлена ваеннае становішча. У горадзе стала небяспечна. Рух пасажырскіх цягнікоў парушыўся.

Каб адправіць Марыю да бацькоў, муж Алімпіі дамовіўся са знаёмым машыністам паравоза пасадзіць яе на таварны цягнік, які адыходзіў на Ліду. Дзяўчынцы растлумачылі, што, калі цягнік будзе пад'язджаць да станцыі Палачаны, машыніст прыцішыць ход, і яна павінна на хаду саскочыць з вагона.

Здарылася непапраўнае. Дзяўчынка, якая першы раз ехала цягніком, не заўважыла, калі машыніст сцішыў ход, затым, убачыўшы, што ён праязджае станцыю Палачаны, саскочыла з яго і трапіла пад сустрэчны цягнік. Адбылася страшная трагедыя. Колы адрэзалі ёй абедзве нагі. Трэба аддаць належнае тым, хто аказваў першую дапамогу пацярпеўшай і зрабіў усё магчымае, каб дзяўчынка не памерла ад страты крыві.

У непрытомным стане яе на насілках адвезлі ў Маладзечанскую ўчастковую бальніцу. Доктару ўдалося выратаваць яе жыццё. На працягу некалькіх месяцаў яна перанесла сем аперацый. Раны доўга не загойваліся.

## У эвакуацыю

У жніўні 1915 года фронт ваенных дзеянняў наблізіўся да граніц Мінскай губерні. Пачалася эвакуацыя прамысловых і гандлёвых прадпрыемстваў, магазінаў, кантор, розных устаноў, а таксама насельніцтва ўглыб Расіі. Усе дарогі былі запоўнены тысячамі стыхійных бежанцаў.

У верасні 1915 года родныя Марыі Лагіновіч адпраўляюць яе ў суправаджэнні старэйшай сястры Алімпіі ў эвакуацыю. Ім пашчасціла, што эвакуацыя сем'яў чыгуначнікаў праводзілася даволі арганізавана. На ўсіх станцыях, дзе затрымліваліся цягнікі, былі абустроены бясплатныя харчовыя пункты, у вагоны заходзілі дактары і сёстры міласэрнасці, аказвалі медыцынскую дапамогу, рабілі перавязкі, выдавалі на дарогу перавязачныя матэрыялы.

Бежанцы з Маладзечна тым цягніком былі эвакуіраваны на станцыю Карачоў, што ў 40 кіламетрах на паўднёвы ўсход ад Бранска. Іх размеркавалі ў сялянскія сем'і. Трэба адзначыць, што мясцовае рускае насельніцтва вельмі прыязна прымала бежанцаў, людзі спачувалі і дапамагалі ім, чым маглі. З асаблівай увагай яны аднесліся да дзяўчынкі-інваліда. Хутка вестка аб тым, што сярод бежанцаў прыбыла і дзяўчынка без ног, дайшла да мясцовага папячыцеля над бежанцамі памешчыка-графа. (Прозвішча яго Рэгіна Захараўна не памятае). Памешчык наведаў яе і напісаў ліст у Маскву да вялікай княгіні Елізаветы Фёдараўны з просьбай прыняць Марыю на лячэнне і апеку.

## Пад апекай княгіні

Елізавета Фёдараўна была роднай сястрой апошняй расійскай імператрыцы Марыі Фёдараўны і жонкай вялікага князя Сяргея Аляксандравіча, маскоўскага генерал-губернатара. Пасля забойства мужа ў 1905 годзе эсэрам І.П.Каляевым, яна распусціла двор, усё сваё багацце накіравала на дабрачынныя мэты і цалкам аддалася служэнню ўсім пакутнікам, тым, хто чакаў дапамогі, цярпеў нястачы, жыў у галечы.

У 1907 годзе яна заснавала Марфа-Марыінскі манастыр. Для яго размяшчэння купіла пляц на Вялікай Ардынцы і распачала будоўлю 12-і карпусоў: для бальніцы, амбулаторыі, аптэкі, сіроцкага прытулку, школы, сталовай, інтэрната для сясцёр міласэрнасці, царквы і інш. З 1909 года манастырскі комплекс пачаў дзейнічаць.

Перш-наперш з пісьмом да Елізаветы Фёдараўны паехала Алімпіія. Вялікая княгіня асабіста прыязна і вельмі проста прыняла яе, уважліва выслухала аб стане здароўя сястры і дала загад неадкладна прывезці Марыю.

Так у снежні 1915 года Марыя Лагіновіч была прынята пад апеку вялікай княгіні Елізаветы Фёдараўны ў Марфа-Марыінскім манастыры, дзе яна знаходзілася да рэвалюцыі.

Марыя расказвала, што атрымала там самае сучаснае лячэнне. Ёй былі заказаны і зроблены надзейныя пратэзы. Навучыцца хадзіць у іх патрабавала вялікага цярпення. Шмат разоў балюча падала, набівала гузакі, плакала ад адчаю і жалю. Шчырая дапамога абслуговага персанала, дактароў, вялікая воля да жыцця, добрыя і ласкавыя словы Елізаветы Фёдараўны ўсялялі ёй упэўненасць у заўтрашні дзень.

## «Хачу вучыцца»

У самыя першыя дні знаходжання ў манастыры Елізавета Фёдараўна спытала ў Марыі, чаго б яна хацела, акрамя лячэння. Марыя адказала: "Хачу вучыцца". І адначасова з лячэннем яна вучылася многім школьным прадметам, была забяспечана падручнікамі, кнігамі для чытання, да яе прыходзілі настаўнікі. Акрамя гэтага, яна вучылася шыць, вышываць, авалодала азбукай Морзе. Праз год магла самастойна пераадольваць адлегласць па манастырскім парку да трох і больш кіламетраў.

Бальніца ў манастыры адносілася да самых сучасных па тым часе. У ёй працавалі і давалі кансультацыі лепшыя спецыялісты Масквы. Лячэнне як у стацыянары, так і амбулаторна, а таксама выдача лекаў з аптэкі, уся разнастайная дзейнасць па апякунству былі бясплатныя.

Падчас рэвалюцыі яе жыццё апынулася ў небяспецы. Ад неаднаразовых прапаноў нямецкага пасла аказаць ёй дапамогу ў выездзе за мяжу яна адмаўлялася. Верыла ў міласэрнасць улад і была ўпэўненая, што за свае шматгадовыя добрыя справы, здзейсненыя для людзей, яна застанецца ў спакоі. На вялікі жаль, рэчаіснасць, прыўнесеная жорсткай і бязбожнай уладай, аказалася бязлітаснай і няўмольнай. Елізавета Фёдараўна была арыштавана. У ноч з 17 на 18 ліпеня 1918 года разам з другімі членамі імператарскага дома была зажыва скінута ў шахту на ўскраіне ўральскага горада Алапаеўск.

4 красавіка 1992 года Руская праваслаўная царква кананізавала Елізавету Фёдараўну і прылічыла яе да ліку святых, вярнула гісторыі імёны знакамітых суайчыннікаў.

Пасля рэвалюцыі жыццё Марфа-Марыінскага манастыра было цалкам паралізавана. Усе засталіся без догляду. Наступіў голад. З вялікімі цяжкасцямі Алімпія прывозіла да сястры з Карачова сабраныя сухары, хлеб, сала. Людзі пакідалі манастыр.

## Дома

У 1918 годзе сёстрам ўдалося вярнуцца ў Маладзечна. Горад і навакольныя вёскі былі разбураныя. Вайна яшчэ працягвалася да восені 1920 года.

Марыя прыкладае ўсе намаганні, усю сваю волю для таго, каб прадоўжыць вучобу, набыць прафесію, стаць самастойнай, не абцяжарваць бацькоў і родных, якія знаходзіліся ў вельмі цяжкім матэрыяльным становішчы.

З гэтага часу яна вызначаецца як неардынарная асоба з вялікім жаданнем здабыць веды шляхам мэтанікарванай працы над сабой. Гэтая адметнасць характару была ўласціва ёй на працягу ўсяго жыцця. Яна працуе і вучыцца, вучыць другіх і працуе. Здабытыя веды дазволілі атрымаць прафесію. Прафесія дала магчымасць ёй зарабляць сродкі на пражыццё, быць заўсёды сярод людзей. Удасканальваючы прафесійныя веды, яна становіцца настаўнікам у выбранай справе, адчуваючы сябе патрэбнай людзям. Усё ўзятае разам узбагачала яе духоўнае жыццё, напаўняла пачуццём чалавечай годнасці і адметнасці.

З 1918 года па 1923-і яна працавала тэлефаністкай на чыгуначнай станцыі ў Маладзечне. Адначасова закончыла прыватныя кравецкія курсы ў Аніськовай, шыла людзям адзенне.

У 1925 годзе ў Вільні здала экзамен пры ўпраўленні старшыняў рамесніцкага цэха краўцоў і атрымала дыплом майстра-краўца. Пасля гэтага яна адкрывае свае прыватныя 10-месячныя жаночыя кравецкія курсы ў Маладзечне, якія падпарадкоўваліся Віленскаму акруговаму школьнаму кураратарству.

У 1930 годзе яна паспяхова заканчвае вакацыйныя курсы для дарослых пры Віленскай гімназіі імя Ю.Крашэўскага ў аб'ёме шасці класаў гімназіі гуманітарнага тыпу.

Адначасова яна заканчвае пры Віленскай школьнай акрузе курсы на атрыманне права выкладчыка працы для дзяўчат у народных школах.

Шмат працуе над сабой, вывучае гісторыю рыма-каталіцкай рэлігіі, прымае актыўны ўдзел у рэлігійным жыцці, вучыць дзяцей катэхізісу і падрыхтоўвае іх да прыняцця першай камуніі (прычасця).

## Праца ў школе

Марыя Лагіновіч пакідае Маладзечна і накіроўваецца ў Трокі, што ў 28 кіламетрах на захад ад Вільні, дзе выкладае ў падшэхнай (агульнаадукацыйнай) школе ўрокі працы для дзяўчат, а таксама ўрокі рэлігіі, атрымаўшы ад каталіцкага духавенства станоўчыя рэкамендацыі. Вучыла дзяцей этыцы (духоўнасці) і паводзінам (этыкету) сярод людзей. Асабліва ўдзяляла ўвагу маральнаму выхаванню.

1 верасня 1939 года пачалася другая сусветная вайна. Польшча была раздзелена паміж Германіяй і Савецкім Саюзам. 17 верасня 1939 года часці Чырвонай Арміі занялі Віленскае ваяводства. 10 кастрычніка СССР перадаў Літве Віленскі край, у тым ліку і Трокскі павет. У гэты час Марыя Лагіновіч пераязджае ў вёску Новы двор, што каля мястэчка Астрына Гродзенскай вобласці. Выкладае ў мясцовай школе ўрокі працы. Восенню 1940 года яе звальняюць. Савецкаму настаўніку не дазваляецца адкрыта верыць у бога, наведваць касцёл і маліцца ў ім.

## Швачка

На працягу ўсяго далейшага свайго жыцця яна працавала швачкай ў сябе на кватэры, якую наймала. Працавала шчыра, аддана, вучыла гэтай справе іншых жанчын.

Як апавядае Рэгіна Захараўна, для Марыі Пятроўны рэлігія азначала вельмі многае, была апорай і падтрымкай, дазваляла прызвычаіцца да складаных умоў жыцця, заахвочвала жыць па законах міласэрнасці. Вера ў бога дапамагала ёй не толькі выжыць, а глядзець на жыццё сур'ёзна, верыць у любоў і дабро, хаця рэчаіснасць не заўсёды гэта пацвярджала. Яна мела бога ў сабе, як святло ў сваёй душы. Яна заўсёды ішла да людзей і людзі ішлі да яе. Марыя Пятроўна была жыццярадаснай, прыгожа спявала, добра іграла на гітары і фартэпіяна.

Доўгі час улада не хацела назначыць ёй пенсію. Каб пацвердзіць працоўны стаж, яна шукае адрасы тых, хто выехаў пасля вайны ў Польшчу, каго яна навучала, з кім працавала. Разаслала 420 пісем. Атрымала 120 станоўчых адказаў. Іх подпісы былі зацверджаны ў польскім натарыяце. Толькі пасля гэтага ёй была назначана пенсія.

У пачатку 1960-х гадоў Марыя Пятроўна пераехала ў вёску Табарышкі, якая знаходзіцца ў 39 км ад Вільнюса, на мяжы з Ашмянскім раёнам. Пабудавала разам з касцёлам на свае сродкі добры дом.

Памерла Марыя Пятроўна 23 чэрвеня 1968 года.

Цяпер гэты дом з'яўляецца плябаніяй. Родныя пахавалі яе на радзіме на старых могілках у Маладзечне.

Марыя Пятроўна Лагіновіч пакінула па сабе вобраз духоўна багатай і, галоўнае, свабоднай асобы.

Падпарадкоўваючыся запозненай справядлівасці, з пачуццём грамадзянскага абавязку ускладаем падрыхтаваныя ўспаміны аб Марыі Пятроўне Лагіновіч на алтар вечнай памяці аб ёй як асобе, якая не можа быць забытай і якая павінна быць занесена ў Кнігу памяці адметных імён нашага краю.

**Франц СВІТО, кандыдат медыцынскіх навук, загадчык музея гісторыі медыцыны.**

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



■ ТУРЫЗМ

# Вядзі, компас

**МАЛАДЗЕЧНА. У мінулую нядзелю адбыліся гарадскія спаборніцтвы па спартыўным арыентаванні "Кубак Ларына-2003". Яны існавалі з сярэдзіны 1970-х да сярэдзіны 1990-х гадоў. Летась турклуб "Пілігрым" адрадзіў "Кубак Ларына".**

Спаборніцтвы прайшлі на высокім узроўні: была выканана карэкціроўка карт, зладжана працавалі суддзі на старце і фінішы. Хаця пунктаў пераноскі картаў магло быць больш, каб удзельнікі не трацілі лішнія хвіліны на старце. Дыстанцыю варта было зрабіць больш простай, бо трэць спартсменаў сышлі з дыстанцыі.

У старэйшай узроставай групе перамагла каманда турклуба "Пілігрым", у малодшай — "Беларусь Норд-Вест" грамадскага аб'яднання "Хрысціянскі саюз дарослых і маладых". У асабістым заліку пераможцамі сталі Канстанцін Прадуха, Святлана Цішко (Беларусь Норд-Вест), Аляксандр Максімовіч (МЭС), І. Кураленя (політэхнічны каледж).

Валерый ПРЫТКОЎ.



На спаборніцтвах па спартыўным арыентаванні каля Відзеўшчыны. Да фінішу дзяўчатам засталося 40 метраў.

Фота Святланы ЦІШКО.

■ ФУТБОЛ, ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

# Гол у кожным тайме

**Маладзечна-2000 – Тарпеда (Жодзіна) 0:2 (0:1). 20 верасня. 1600 гледачоў. Суддзя Шмолік. Галы: Дзівакоў (19, 78).**

Склад: 1.Сцепановіч – 3.Пятроўскі, 4.Крывіцкі, 5.Афанасевіч – 6.Лявончык, 10.Вышынскі (15.Кадол,46), 8.Альховік, 9.Дараховіч, 2.Якімчук (17.Хамутоўскі,71) – 7.Лабанаў, 11.Урублеўскі.

Гэты матч паказаў, што перамога ў Мінску не прайшла для нашай каманды бясследна. У першую чаргу ў плане функцыянальнай падрыхтоўкі: футбалісты дрэнна рухаліся, вельмі часта не паспявалі за сапернікамі. Магчыма, аказалася рызыкоўнай тактыка: тры абаронцы не справіліся з чужымі атакамі, тры цэнтральныя паўабаронцы аддалі сярэдзіну поля гасцям, два нападаючыя ні разу трывала не авалодалі мячом у штрафной жодзінцаў. Праўда, добрых абаронцаў у камандзе адвачна не хапае: адсутнічаў дыскваліфікаваны Дрозд, а Пятроўскі якасна яго замяніць не здолеў. Дарэчы, варта зазначыць, што і Пятроўскі, і Мятліцкі, і Лявончык, хаця атрымалі цяпер стабільную гульнявую практыку ў вышэйшай лізе, дзейнічаюць ніяк не лепш, чым, напрыклад, год таму. У нападзенні Лабанаў акрэсліў сябе ў ролі форварда, які не сам стварае небяспечныя моманты, а чакае іх. Такія паводзіны не бясспрэчныя, але маюць права на жыццё. Напрыклад, у справаздачным матчы адразу пасля першага прапушчанага гола Андрэй аказаўся на вастрыі атакі, і толькі некалькіх сантыметраў не хапіла яму, каб дакладна прабіць у барацьбе з абаронцамі.

Стварылі маладзечанцы яшчэ адзін спрыяльны момант: напачатку другога тайма Афанасевіч стрэліў са штрафнога ў перакладзіну. Госці пагражалі куды часцей, да перапынку яны літаральна "абклалі" нашы вароты вугламі і штрафнымі. Запомнілася ўдалая гульня Сцепановіча, які бліскуча парыраваў два ўдары ва ўпор.

**20.09. Тарпеда-СКА – Славія 4:0, Белшына – Зорка-ВА-БДУ 1:0, Дарыда – Нафтан 0:1.**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Гомель | 52 |
| 2. | Тарпеда-СКА | 48 |
| 3. | Дынама (М) | 45 |
| 4. | Шахцёр | 43 |
| 5. | БАТЭ | 39 |
| 6. | Тарпеда (Ж) | 34 |
| 7. | Нафтан | 28 |
| 8. | Днепр-Трансмаш | 26 |
| 9. | Нёман | 26 |
| 10. | Белшына | 21 |
| 11. | Дынама (Б) (-1) | 18 |
| 12. | Дарыда | 18 |
| 13. | Зорка-ВА-БДУ | 18 |
| 14. | Славія | 16 |
| 15. | Лакаматыў (М) (-1) | 14 |
| 16. | Маладзечна-2000 | 14 |

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

■ ФУТБОЛ, СУБ'ЕКТЫЎНА

## Судзейскія цуды на маладзечанскім полі

**Цікава атрымліваецца – нейкі зачараваны горад Маладзечна. Прыедуць сюды людзі, асабліва арбітры вышэйшай лігі футбольнага чэмпіянату, і, уявіце сабе, адразу лепш бачаць, прычым, што цікава, бачаць ажно тое, чаго не было.**

Як у тым фільме "ДМБ".
– Бачыш сусліка?
– Не!
– А ён існуе...

Вось так здараецца на гарадскім стадыёне Маладзечна: пенальці, напрыклад, не было, а яго прызначаюць... Як у гульні мясцовай каманды з лідэрам чэмпіянату "Гомелем". Вядома ж, арбітр Валерый Пятровіч сябруе з настаўнікам гамяльчан Сяргеем Падпалым, аднак навошта знаходзіць сусліка там, дзе яго не было і быць не можа. А пакутуюць з-за арлінага вока суддзі прадстаўнікі "Маладзечна-2000". Нельга так, Пятровіч...

Усім вядомыя словы: "Святое месца пустым не бывае". У нашым выпадку больш падыдзе: "Была б арэна, а клоуны знойдуцца". Не паспелі яшчэ забыць Пятровіча, як прыехаў Шмолік судзіць матч з жодзінцамі. І што? Зноў выдумкі. Праўда, на гэты раз толькі штрафны, але ён прывёў да другога гола ў вароты гаспадароў...

Адзін раз – выпадковасць, два – звычка, а тры – ужо заканамернасць... Будзем спадзявацца, трэцяга разу не будзе, судзейскія цуды ў Маладзечне спыняцца.

Аляксандр ВАНКОВІЧ.

■ ФУТБОЛ, ПЕРШАЯ ЛІГА

## Яшчэ два ачкі

**Смаргонь – Граніт (Мікашэвічы) 2:0 (1:0). 21 верасня. 3000 гледачоў. Суддзя Мяцельскі. Галы: Тарасаў (8), Кухлей (81).**

Склад: 16.Шляхавой – 4.Курак, 2.Сінічын, 3.Давідовіч, 5.Трындзюк – 6.Тарасаў (13.Ганчароў,88), 9.Судзін, 10.Карасёў, 8.Кукалевіч (17.Шырабокаў,67) – 7.Кухлей, 11.Грабаздзін (18.Валовік,58).

Ішла ўпартая барацьба роўных каманд. Тым прыемней смаргонскім балельшчыкам здабытая перамога, якая дазволіла іх камандзе ўпэўнена ўпчыльную падабрацца да жаданага трэцяга месца. Ёсць і іншыя станоўчыя перамены. На стадыёне (за футбольнымі варотамі) з'явілася новая трыбуна, дзе ўстаноўлена 400 індывідуальных сядзенняў.

Тарасаў адкрыў лік ударам галавой па мячы, не даўшы галкіперу замацаваць яго ў руках, чаму папярэднічаў удар Карасёва і рыкашэт ад абаронцы. Падвоіў перавагу Кухлей, замкнуўшы на далёкай штангзе флангавы навес Валовіка.

**21.09. Днепр-ДЮСШ-1 – Ведрыч-97 1:3, Дынама-Юні – ЗЛІН 1:0.**

Каманда Смаргоні мае 41 ачко і займае 6 месца. Да трэцяга радка табліцы засталося 2 ачкі.

Мікіта ЛІСТАПАД.

■ АНОНС

**27 верасня. Камунальнік (Слонім) – Смаргонь.**
**+1=1-1 2-2. У першым крузе 1:1 (Валовік) дома.**
**28 верасня. Шахцёр (Салігорск) – Маладзечна-2000.**
**+7=4-10 18-24. У першым крузе 0:3 дома.**

Табло

■ ФУТБОЛ, НАВІНЫ

**19 верасня. Маладзечна-2000 (дубль) – Тарпеда (Жодзіна, дубль) 0:1.**
**21 верасня. Забудова – Гомель-СДЮШАР 3:1 (2:0).**

Галы: Гружэўскі (22), Ясюкевіч (41), Вяжэвіч (60); (84).

Выпраўляючы памылку, якая выйшла са сцен рэспубліканскай федэрацыі, неабходна зазначыць, што перад гэтым матчам чысціцы дзялілі 8-9 радкі і на 2 ачкі апярэджвалі гамяльчан. Выніковае месца "Забудовы" ў табліцы вызначыцца праз тыдзень, калі будзе згуляны перанесены матч паміж "Асіповічамі" і "Лівадзіяй".

Традыцыйны турнір "Залатая восень" распачаўся ў Маладзечне. Удзельнічаюць 10 каманд: акрамя гарадскіх, яшчэ па адной з раёна і з Вілейкі. Гуляюць штодзень у адзін круг на стадыёне ў Залінейным раёне. Цікава, ці здолее хто-небудзь скласці канкурэнцыю гаспадарам з "Пуцейца", якія сёлета ўжо выйгралі адкрыты Кубак горада.

■ ЦЯЖКАЯ АТЛЕТЫКА

**СМАРГОНЬ. Прайшлі абласныя спаборніцтвы ў рамках Алімпійскіх дзён моладзі (1987 г.н. і малодшыя).**

Каманда хлопчыкаў, якія займаюцца ў мясцовай СДЮШАР (трэнер Станіслаў Красоўскі) заняла першае агульнае месца з шасці каманд. У шэсць вагавых катэгорыях першынстваваў Андрэй Мацкель, Аляксандр Якімаў і Віктар Чыжэўскі, а таксама дзяўчынкі Таццяна Яцкевіч і Анастасія Рогач.

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

■ КАРАТЭ

**МАЛАДЗЕЧНА. Спартсмены клуба "Сакура" сталі прызёрамі на рэспубліканскім турніры па каратэ сярод юнакоў і дзяўчат 16-17 гадоў.**

Клуб прадстаўлялі на спаборніцтвах Дзмітрый Страж і Яўген Шатыронак. Яны занялі адпаведна 2-е і 3-е месцы ў кумітэ (паядынках), узнагароджаны дыпломамі і медалямі. Дзмітрый выступаў у вагавай катэгорыі да 55 кг, Яўген -- звыш 75 кг. Хлопцы займаюцца каратэ ўжо 5 гадоў, некалькі разоў былі прызёрамі рэспубліканскіх турніраў і чэмпіянату Еўропы. Падрыхтавалі спартсменаў трэнеры Сяргей і Вячаслаў Хадасевічы.

Святлана ЦІШКО.

■ СПАРТАКІЯДЫ

## Дапрызыўнікі з Маладзечна перамаглі

**МАЛАДЗЕЧНА. У міжнароднай спартакіядзе па летнім мнагаборстве комплексу "Абаронца Айчыны", якая праходзіла на спартыўных базах Маладзечна, гаспадары (набралі 1158 ачкоў) перамаглі каманды Маскоўскай (795) і Кіеўскай (746) абласцей.**

Зборную Міншчыны складалі выключна маладзечанцы, прычым горшы з іх шасцёркі выступіў мацней за лепшага сярод прыезджых. Віктара Вераб'ёва (201), Юрыя Бойку (199), Міхаіла Пеўнева (197), Уладзіміра Даўговіча, Аляксея Шчэрбу і Уладзіміра Мароза рыхтавала да спаборніцтваў Ларыса Казлова.

У пятніцу была стральба з пнеўматычнай вінтоўкі – першынстваваў Вераб'ёў. У суботу 100 метраў хутчэй за астатніх прабег расіянін, Мароз больш за ўсіх (31 раз) падцягнуўся на перакладзіне, кіданне гранаты выйграў украінец, 50 метраў найлепш праплыў Шчэрба. У нядзелю 3-кіламетровы крос першым пераадолеў расіянін.

Адначасова змагаліся калектывы ўсіх гарадоў і раёнаў вобласці. Усяго сабралася каля 170 удзельнікаў. Тут услед за гаспадарамі замацаваліся Барысаў (815) і Маладзечанскі раён (788). Лідэрамі раённай каманды сталі Анатоль Глінскі, Ягор Дабранскі, Юрый Дылеўскі. Мядзяльчане сталі сёмымі, а віляйчане і валожынцы не ўвайшлі ў першую дзесятку.

## Ашмянцы парадавалі

Традыцыйныя абласныя гульні працоўных 13-14 верасня прайшлі ў Гродне. У дзесяці відах спорту змагаліся каманды з усіх раёнаў і гарадоў. Прадстаўнікі рэгіёну пасылалі ад 40 да 60 сваіх спартсменаў. Усе 10 відаў "закрылі" толькі ашмянцы.

У групе з шасці найбольш развітых у сацыяльна-эканамічным плане раёнаў, дзе залік бярэцца па сямі лепшых відах, на жаль, апошнім пры падвядзенні агульных вынікаў стаў Смаргонскі раён, хаця ў мінулыя гады каманда аспрэчвала прызавыя месцы. Праўда, ёсць дасягненні па асобных відах. Першае месца ў лёгкаатлетычным кросе (тэст Купера – якую адлегласць прабяжыш за 12 хвілін), другое месца ў перацягванні каната, трэцяе месца ў стрытболе (спрошчаная версія баскетбола) сярод жанчын.

У групе з астатніх чатырнаццаці каманд (залік бярэцца па шасці лепшых відах) чацвёртае агульнае месца заняў Ашмянскі раён. На іх рахунку перамога ў двух відах: гіравым спорце і лёгкаатлетычнай эстафеце (600 м мужчыны – 400 м жанчыны – 100 м мужчыны – 100 м жанчыны).

Сярод аўтсайдэраў апынуўся Астравецкі раён. Яго лепшым вынікам было шостае месца ў міні-футболе.

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



## ВІНШАВАНКІ

Віншуем з 18-годдзем
**Войтку Дзмітрыя!**
Жадаем моцнага здароўя, шчасця, поспеху ў вучобе.



Храни тебя Бог от житейских невзгод.
От тяжких болезней, душевных тревог.
Пусть будет побольше безоблачных дней
Согреты любовью родных и друзей.

*Твае маці, тата і брат Міша.*

Віншую праўнука **Войтку Дзмітрыя** з 18-годдзем! Жадаю моцнага здароўя, шчасця, поспехаў у вучобе. *Прабабуля Ніна.*

Віншуем любага ўнука **Войтку Дзмітрыя** з 18-годдзем! Жадаем быць самым вясёлым і самым шчаслівым, добрым, пяшчотным і самым прыгожым. *Твае бабулі Марыя, Вера і дзядуля Лёня.*

Клуб "Пілігрым" віншуе ўсіх **вітэранаў турызму** горада Маладзечна і рэгіёну, спартсменаў з Сусветным днём турызму. Жадае моцнага здароўя і цікавых маршрутаў.

Віншуем **турклуб "Пілігрым"** з Сусветным днём турызму. Жадаем верных сяброў і цікавых вандровак. *Рэдакцыя "РГ".*

Віншуем **Дунец Вацлава Вітальевіча** з днём нараджэння. Жадаем ад Бога - здароўя, ад сонца - цяпла, ад людзей – дабра. *Адась Дамашыц.*

Віншуем **Усціновіч Вікторыю і Адукіса Сяргея** з Полацка са шлюбам! Жадаем кахання, павагі, шчаслівага сумеснага жыцця. *Людміла і Павел Ляшковічы з Вілейкі.*

Віншую дарагую сяброўку **Усціновіч Вікторыю Яўгенаўну** з Полацка са шлюбам. Жадаю кахання і пяшчоты ад мужа на ўсё жыццё. *Сяброўка Людміла з Вілейкі.*

## ЗНАЁМСТВЫ

Адзінокі мужчына 41/180/80, в/а, без в/з, пазнаёміцца з жанчынай без праблем для стварэння сям'і. Вілейка-4, п/п МС 0918602.

Малады чалавек 27 год пазнаёміцца з вясковай жанчынай 30-32 год для стварэння сям'і. 222310, Маладзечна, вул. Касманаўтаў, 4-76. Аляксандр.

Прыемная жанчына 48/162/75 пазнаёміцца з прыемным, добрым мужчынам для сяброўства. Маладзечна-6, п/п МС 0441095.

Жанчына 25/160 з дзіцём пазнаёміцца з фінансава забяспечаным мужчынам да 40 год. Маладзечна-6, п/п МС 0836774.

Сімпатычная жанчына 40/163/60 пазнаёміцца з сур'ёзным і самастойным мужчынам 40-48 год. З МПВ прашу не турбаваць! Маладзечна-4, п/п МС 0431559.

■ З НАШАГА АКНА

# Піць, дык піць...

**Вокны рэдакцыі не выходзяць ні на Цэнтральную плошчу горада, ні на бойкую вуліцу. Перад вачыма штодзень градкі ды бетонная агароджа, якая, як падковай, атуляе двор шостай школы. Але і на гэтым лапіку кожны дзень нешта адбываецца. Некалькі дзён таму насупраць нашага акна адпачываў мужчына.**

Раскінуўшы шырока рукі, спаў соладка, з прыхрапам. Толькі, відаць, сны сніліся трывожныя. Вельмі ж ужо часта варочаўся з боку на бок і тады скочваўся са свайго "ложка", якім служыў цэментавы парапет, у градкі. Спаць у бураках было, відаць, не так зручна. Ён падымаў калматую галаву, жмурыўся... і зноў перапаўзаў на ранейшае месца.



А я лягу-прылягу...

Фота Яўгеніі МАНЦЭВІЧ.

Сонца пякло ў той дзень няшчадна. Адзінае, чаго хацелася, як найхутчэй схавацца ў цень. Мужчыну, апранутаму ў шарсцяную спартыўную кофту і сорак апошняга памеру гумовыя боты горача не было. І гэта нягледзячы на тое, што грэлася яго цела як звонку, так і знутры: хто ведае, колькі грамаў прыняў для "ўвесялення" душы.

Піў хутчэй за ўсё не за пенсію. Грошы на спірное выручыў за грыбы: побач стаяў пусты кошык, у якім засталіся рэшткі нерэалізаванага тавару: вялікаваты падбярозавік у рудой бліскучай шапцы. Ці то ніхто з пакупнікоў браць такі не захацеў, ці то мужчына сам пакінуў ляснога прыгажуна, так бы мовіць, на развод. Раптам возьме яе вялікасць Фартуна ды адвернецца ў час наступнага ціхага "палявання". А як не будзе грыбоў, то не будзе і грошай, каб выпіць.

Спаў ён доўга. Дзве спагадлівыя бабулькі з суседняга пад'езда не ўтрымаліся, падышлі, паслухалі ці дыхае, сталі будзіць. "Ідзі дамоў, чалавеча, — папрасіла адна з іх. – Там ужо недзе даўно цябе чакаюць". Не ведаю, ці дайшлі да мужчыны тыя словы, ці не, але з гарызантальнага становішча ён усё ж такі выйшаў. Сеў, абхапіў галаву, якая, відаць, трашчала, рукамі, загойдаўся з боку ў бок. Затым замёр, пасядзеў нерухома некалькі секунд і стаў ліхаманкава ашчупваць кішэні. На бутэльку ўсё ж такі ён наскроб. Іначай не "паскакаў" бы з такой хуткасцю, толькі заляпалі халявы ботаў, у бок магазіна. І сапраўды, піць, дык піць...



У акно глядзела Марына СЛІЖ.

## Кінатэатр «Радзіма»



**26-28 верасня. "Чаго хоча дзяўчына"**, ЗША, баявік – у 15.00, 17.00 і 21.00.
**"Гісторыя кахання"**, ЗША, рамантычная камедыя – у 19.00.
**29 верасня-5 кастрычніка.**
**"Агент Джоні Інгліш"**, ЗША, камедыйны баявік – у 17.00 і 21.00.
**"Блакітная хваля"**, ЗША, меладрама – у 19.00.

### Для дзяцей

**27-28 верасня.**
**"Сцюарт Літл-2"**, ЗША, камедыя – у 13.00.
Дыскатэка: для малодшых школьнікаў – у нядзелю ў 15.00, для школьнікаў старэйшых класаў – у суботу ў 18.00, для моладзі – у пятніцу і суботу ў 21.00.
Працуе бар. Камп'ютэрныя гульні.
Тэл. для даведак: 7-15-92, 7-06-30.

■ КОНКУРСЫ

# Зарабі білеты ў кіно






Вітаю вас, шаноўныя! Рада вам паведаміць, што ў матэматычных лабірынтах не заблудзіліся **Іван Жамойдзін, Ігар Сільвановіч, Юрый Юхневіч, Вольга Палівода, Аляксандр Кендыш, Дзмітрый Пакладок, Таццяна Ягела** з Маладзечна і **Сяргей Смалонскі** з Радашкавіч. А пераможцамі сталі **Вольга Палівода, Таццяна Ягела, Юрый Юхневіч**. Прыходзьце, калі ласка, да нас у рэдакцыю за білетамі ў кіно, яны вас чакаюць да 30 верасня. А цяпер прапаную адказ на мінулае заданне. 1-Л, 2-Е, 3-В, 4-Я, 5-Ш, 7-И, 9-Н, а прозвішча вядомага футбаліста — Лев Яшин.

### А зараз умовы наступнага задання

Гэта крыжаванка, і яна незвычайная. Каб яе разгадаць, трэба ўважліва чытаць нашу газету. 1. "Смачнае слова", пра якое мы даведаліся ад Яўгеніі Манцэвіч у №37 ад 12 верасня. 2. Возера – адзін з пунктаў маршруту паходу ў Міхайлаўскае, дарэчы, пра які (паход) нам апавядаў Сяргей Бялкоў у №35 ад 29 жніўня. 3. Матэматычная гульня-конкурс з Аўстраліі, пра які мы даведаліся ад Марыны Сліж у №38 ад 19 верасня. 4. Новая назва адной з вуліц у Вілейцы, згодна з рашэннем павятовага Часовага упраўлення ад 29 лістапада 1939 года (глядзіце №37 ад 12 верасня). 5. Як звалі бацьку Клаўдзіі Камінскай, з якой мы разам разглядалі "стары альбом" у №37 ад 12 верасня. 6. Як назвала 1 верасня настаўніца сваіх вучняў, на якіх мы глядзелі з нашага акна разам з Марынай Сліж у №36 ад 5 верасня. Калі вы справіцеся з крыжаванкай, то ў выдзеленых клетачках прачытаеце імя нашага новага "супрацоўніка" і проста сябра, які на старонках "РГ" будзе даваць розныя парады. Спадзяюся, што ў кампаніі з ім вы не будзеце сумаваць.

Адказы прымаюцца да аўторка (30 верасня) уключна. На кон выстаўляюцца 4 білеты.



Чытачоў азадачвала Аксана КУЛЕЎНІЧ.

■ ПАРАДЫ САДАВОДУ І АГАРОДНІКУ

# Што і як рабіць у кастрычніку

**У кастрычніку, звычайна, убіраюць апошнія яблыкі позніх сартоў, здымаюць лоўчыя паясы – з паперы спальваюць, а з мешкавіны кіпяцяць, каб знішчыць вусеняў пладажэркі.**

Затым іх сушаць і захоўваюць да наступнага года. Падпоры таксама ўбіраюць, калі гэтага не рабілі раней, дэзінфіцыруюць і ставяць у надзейнае месца.

Угнойваюць прыствольныя кругі, перакопваюць іх лапатай або віламі. Раны пакрываюць масленай ці водаэмульсійнай фарбай.

Калі дрэвы пашкоджны паршой, іх, пакуль не ападзе лісце, апырскваюць растворам аміячнай салетры або мачавіны з разліку 700-800 г на вядро вады.

Яблыні, вішні, слівы і грушы, якія адпладаносілі 10 і больш гадоў (чорныя парэчкі і агрэст – 6-8 гадоў) і якасць іх пладоў пагоршылася, можна выкарчоўваць і на іх месца пасадзіць новыя. Пры магчымасці пажадана пасадзіць сад на новым месцы, каб адпачыла зямля. Можна памяняць месцамі кусты з дрэвамі, а суніцы — з агароднымі культурамі.

Калі набылі саджанцы для закладкі новага саду або рамонту старога, то маліну, парэчкі і агрэст пасадзіце адразу ж на пастаяннае месца, а яблыні, грушы, слівы і іншыя драўнінныя пароды – вясной, да распускання пупышак. На зіму іх саджанцы глыбока прыкапайце з паўночнага боку будынка.

Убірайце познія яблыкі 1, 2, 9, 10 кастрычніка, абразайце дрэвы і кусты 18, 20 і 23 кастрычніка.

Агароднікі заканчваюць уборку бульбы і гародніны, уносяць угнаенні і пераворваюць (або перакопваюць) глебу.

Прымяняюць і такі не ўсім вядомы аграпрыём, як "прамарожванне" глебы. Сутнасць яго ў тым, што зямля, якая добра прамерзне на глыбіню 15-20 см, пазбаўляецца ад інфекцыі многіх хвароб і яек ці лічынак шкоднікаў. З гэтай мэтай спрактыкаваныя агароднікі ў час асенняга перакопвання агарода не разбіваюць нават вялікіх грудкоў. Яны затрымліваюць снег і прапускаюць мароз на большую глыбіню.

Выключэнне толькі робяць для глебы на прыствольных кругах пладовых дрэў, каля ягаднікаў, на градках, дзе растуць суніцы, шматгадовая і пасаджаная на зіму гародніна. Гэтыя месцы, наадварот, уцяпляюць мульчай і затрыманым снегам.

Неспрыяльныя для сяўбы і пасадкі любой культуры дні – 4-6, 10, 19-21, 25 і 31 кастрычніка, а цыбулю і часнок лепш саджаць 23 і 24, моркву і іншыя караняплоды – 12, 13, 17 і 18 кастрычніка.

Нарыхтоўваць сокі і квасіць капусту трэба 11-13 і 16-20 кастрычніка.

Альбін МАКАРЭВІЧ, аграном.

## Купон 39

Рэгіянальная газета

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

тэкст

прозвішча, імя, адрас (не для друку)

### Звярніце ўвагу

**Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!**
**Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання і нумар дакумента ўладальніка. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!**

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

